© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1711) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 26 ЛЮТАГА 1989 г. ЦАНА 40 зл.




„Гуляю я...", — спяваюць арэшкаўскія жанчыны.

## Святочны вечар

У Арэшкава мы дабраліся са Сцяпанам Копам надвячоркам. Браўся густы прыцемак, калі мы зыходзілі з цягніка. Папыталіся дарогі да клуба ў людзей, якія вярнуліся цягнікам з Гайнаўкі дахаты.

— Вы, пэўна, на канцэрт, — здагадаліся мясцовыя.

— Так, на канцэрт.

— Дык ідзіце тудою, у нас сёння будзе цікава, нават з Тыневічаў прыедуць спявачы, — паведаміла нас адна жанчына і паказала ў бок паблісквающай жоўтымі шыбінамі вуліцы.

Арэшкава — вёска немалая, прытым раскіданая ва ўсе бакі хутарамі і прысёлкамі. Ну, будзе гаспадароў з дзвесце, — сказалі мне арэшкаўскія жанчыны ў клубе. Шмат хто жыве на хутарах, якія маюць асобныя назвы: Затрастынец, Падтрасты-

(Працяг на стар. 6)

## ...І ўспомнім былыя гады

У канцы мінулага года прыехалі на Беласточчыну і Сувальшчыну, каб успомніць былыя гады і пакланіцца сваім аднапалчанам, якія назаўсёды засталіся ляжаць у гэтай зямлі, абараняючы яе ў першыя дні вайны ад нямецка-фашысцкай навалы. 31 ветэран вайны — былыя савецкія салдаты 3-яй і 10-ай армій Заходняга фронту, а таксама пагранічных войск, якім у чэрвені сорак першага давялося прыняць на сябе першыя ўдары гітлераўскіх войск. Прыехалі з розных куткоў СССР — з Беларусі, Украіны, Масквы, Ленінграда, з Каўказа, Урала, Сібіры. Лёс раскінуў іх, уцалелых байцоў, па свеце і, калі б не Іраіда Макеева, настаўніца з Гродна, хто ведае, ці сустрэліся б яны яшчэ калі-небудзь у жыцці...

Больш чатырох дзесяткаў гадоў, ад 1946 года, вяла гэта настаўніца, сёння ўжо пенсіянерка, свае пошукі. Немагчыма ж, думалася ёй, каб усе гэтыя людзі дзесьці зніклі. Недзе ж яны

(Працяг на стар. 2)



Савецкія ветэраны на месцы першых баёў на Беласточчыне ў чэрвені 1941 года.

## Від Kuska!

Вельмі ж рагаталі сябрукі, чуючы, як маці Казіка калола яго шпількаю ў язык за —забыўліва сказанае — беларускае слова, якое было забаронена пад страхам менавіта такой кары ў падбеластоцкім супер-польскім доме ягонага маленства і маладосці. Экспанат у музей праследнікаў беларушчыны!... Жарты скончыліся, калі Казік вырас і стаў журналістам. Свае творчыя крылы распасцёр ён, махаючы процібеларускія артыкулы. Так і нядаўна, у вячэрняй газеце „Kurier Podlaski" — у нядзельным выданні з датай 3-5 лютага — змясціў на цалюткую старонку (з пачаткам на першай) публікацыю „Pod różnymi krzyżami". Вядома, дапамаглі ў гэтым аднадумцы Казя. І пайшла пісаць губерня!

Па гэты нумар „Кур'ера Падляшскага" пасталі чэргі перад кіёскамі даўжэйшыя, чымсьці зазвычай. Беларусы куплялі, каб пачытаць, што пішуць пра іх палякі. А палякі — што думаць пра беларусаў. Абедзве нацыі Беластоцкага краю, займеўшы экземпляр у руку, разбегліся па кватэрах, не надта ўжо і вітаючыся адзін з адным...

Часта даведаліся польскія су-

(Працяг на стар. 6)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Этнаграфічнае акенца



*Франтон хаты з міжваеннага часу ў вёсцы Грыгораўцы, гм. Орля.* *Фота М. Гайдука.*

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na pismo Nr L. dz. 551/88 z dnia 30 grudnia 1988 roku w sprawie publikacji zamieszczonej w Waszym tygodniku (nr 47 z dnia 20 listopada 1988 r.) p.t. „Sprawę stawiamy ostro" dotyczącej ujęcia do planu czynów społecznych budowy hali sportowej w Bielsku Podlaskim, Kuratorium Oświaty i Wychowania informuje, że podziela stanowisko autorki publikacji o potrzebie budowy w/w hali sportowej. Jednocześnie Kuratorium wyjaśnia, że o ujęciu do planu czynów społecznych w/w inwestycji decyduje Miejska Rada Narodowa w Bielsku Podlaskim.

Władze wojewódzkie uwzględniając trudności związane z finansowaniem w/w zadania, ze względu na wzrost cen przydzieliły w 1988 r. 34,3 mln zł (co stanowi 20% wartości kosztorysowej) z nadwyżki budżetowej Wojewódzkiej Rady Narodowej ze środków na popieranie czynów społecznych.

Wydział do Spraw Młodzieży i Kultury Fizycznej UW przeznaczył na ten cel 20 mln. zł.

W związku z powyższym pozostała kwota potrzebna do realizacji hali sportowej powinna być zapewniana z budżetu MRN oraz ze środków ludności m. Bielska Podlaskiego.

**Kurator Oświaty i Wychowania**
**Edward Kryński**




### СТАРАЛІТОЎСКІ БОРШЧ

На боршч бярэм: 50-75 дэкаў ялавічыны з косцю, 30 дэкаў капчонай шынкі, 10 сушаных баравікоў, 2-3 буракі, 1 моркву, 1 пятрушку, 2 рэпы, 1 яблык (кіслы), 1/4 калярэпы (кальрабі), паўлітра бурачанага квасу, 1 цыбуліну, паўшклянкі смятаны, 1 лыжачку майрану, паўлыжачкі кмену, укроп.

На вушкі бярэм паўтары шклянкі мукі, 2 яйкі, 2 жаўткі, 3 вялікія цыбулі, грыбы з баршчу, 1 лыжку масла, 25 дэкаў варанай у баршчы ялавічыны, 10 дэкаў капчонай саланіны, 2 лыжкі майрану, паўлыжачкі змеленага перцу, паўлыжачкі солі.

З ялавічыны і капчонай шынкі зварыць булён, дадаючы ў яго моркву і пятрушку. Выняць з булёну мяса. Палавіну ялавічыны прызначыць на фарш для вушак.

Памытыя буракі зварыць у лупінах, абабраць і нарэзаць саломкай. Рэпу, калярэпу і яблык памыць, абабраць, нарэзаць саломкай і варыць разам з нарэзанымі буракамі ў мясным булёне.

Сушаныя грыбы памыць і варыць асобна. Адвар з грыбоў уліць у булён з гароднінай, а грыбы пакінуць на фарш для вушак.

**Вушкі з грыбным фаршам.** Зваранья грыбы пасячы, падсмажыць на масле разам з пасечанай цыбуляй, усё прапусціць праз мясарубку. У грыбную масу дадаць 1 яйка, крыху солі па смаку і ўсё перамяшаць.

**Вушкі з мясным фаршам.** Палавіну варанай ялавічыны прапусціць праз мясарубку. Саланіну нарэзаць дробна і падсмажыць з адной пасечанай цыбуляй, перамяшаць яе разам са змеленым мясам, дадаючы 2 лыжачкі майрану і перац.

З мукі, 1 яйка, 2 жаўткоў і трох лыжак соку з цыбулі замясіць цеста, пасаліць яго. Тады раскатаць на таўшчыню паўтара міліметра і парэзаць на квадраты шырынёю 3x3 см.

Падрыхтаваныя фаршы класці на квадраты цеста і рабіць вушкі. Адны — з мясным фаршам, другія — з грыбным. Апошнія крыху падсмажыць на масле.

У атрыманы грыбна-мясны булён з гароднінай дадаць бурачаны квас і закіпяціць.

Тады ў кіпячы боршч класці па чарзе: спачатку сырыя вушкі з мясным фаршам, праз 3-4 мінуты — падсмажаныя на масле грыбныя вушкі, а ў канцы дадаем нарэзаную ялавічыну і шынку, а таксама прыправы. Усё патрымаць на малым агні яшчэ мінут пяць. Пад канец забяліць смятанай і пасыпаць пасечаным укропам.

**Гаспадыня**




Мне 2[illegible] год, я студэнтка. Абрыд мне ўжо свет, не магу знайсці сабе месца ў жыцці і ў сваім асяроддзі.

Трагедыя мая пачалася з тае пары, калі я паехала на студэнцкую практыку. Там я пазнаёмілася са сваімі аднакурснікамі і вельмі пасябравала з Агнешкай. Гэта вельмі інтэлігентная і прыгожая дзяўчына (сінія вочы і доўгія чорныя валасы). Мы ўвесь час былі разам. Разам працавалі, разам хадзілі купацца, у дыскатэку. Аднойчы да нашай сяброўкі прыехаў яе хлопец, і мне давялося спаць у адной пасцелі з Агнешкай. Уначы мы доўга гутарылі, Агнешка расказвала пра свайго хлопца. Тады я адчула, што мне робіцца сумна, але не дапускала яшчэ да сябе думкі, што гэта зайздрасць. Практыка закончылася. Я не магла дачакацца, калі пачнецца кастрычнік. Мы спаткаліся з Агнешкай у доме студэнта, і я даведалася, што будзем жыць у адным пакоі.

У нашым пакоі заўсёды было вельмі весела, прыходзіла многа знаёмых. Аднойчы Агнешка атрымала пісьмо ад свайго хлопца, што ён прыязджае да яе. Томэк прыехаў у суботу і яны вельмі пасварыліся. Калі я ўвайшла ў пакой, яго ўжо не было, а яна сядзела і плакала. Я стала яе пацяшаць. Агнешка стала мяне абнімаць і цалаваць, мне гэта не перашкаджала (дагэтуль я не мела ніякага хлопца). Усё гэта здавалася мне такое нармальнае і такое нам патрэбнае, што я не бачыла ў гэтым нічога дзіўнага.

З той пары я зразумела, што я кахаю Агнешку, а яна мяне. Мы заўжды былі разам і не заўважылі, калі нашы сябрукі і сяброўкі адвярнуліся ад нас. Нам гэта не перашкаджала, але нарэшце аказалася, што мы былі на языках усяго асяроддзя. Знайшліся такія, якія стараліся дапячы нам да жывога. Нават нашы сардэчныя сяброўкі пачалі ўцякаць ад нас, а другія — насмяхацца. Стараемся не звяртаць на гэта ўвагі, але як доўга можна жыць сярод такіх людзей, як доўга можна бараніцца?!.. Ці для нас няма ратунку? Ці ўсе людзі такія? Чаму людзям так цяжка зразумець, што ёсць іншыя ад іх? Мы ж нікому не перашкаджаем...

Сэрцайка, я думаю, ты нас зразумееш і паможаш нам і другім.

**Бася**

Бася! У сённяшнім свеце ты, аднак жа, ужо і не цалкам арыгінальная. Напэўна ж чула, што польскія гомасексуалісты імкнуцца да таго, каб іх саюз быў зарэгістраваны як легальнае таварыства.

У сваім пісьме ты хочаш даказаць, што твае пачуцці да сяброўкі вельмі шчырыя і высакародныя і што тое, што вы робіце, — гэта нешта новае, лепшае (сяброўкі мае падказваюць: лепшае, бо не зацяжарыць!). Табе здаецца, што вы належыце да нейкай лепшай, больш сучаснай касты людзей. Нічога, што іншыя сябры і сяброўкі адвярнуліся ад вас і пацішу падсмейваюцца. Ты і так сваё ведаеш.

Ну што ж, пазабаўляйся крыху, калі табе так добра! Маладосць жа мае свае правы. На будучыню ж такія забавы нічога добрага не варожаць. Застанешся адна як кол, станеш калісьці старой і брыдкай і ніхто не скажа нават табе добрага слова.

А тое, што людзі дакучаюць вам, не павінна цябе асабліва здзіўляць. Людзі наогул не любяць анармальнасці. Большасць людзей лічыць, што ўсё ў прыродзе павінна адбывацца па-божаму.

Думаю ўсё ж, што гэтыя парывы маладосці і табе і тваёй сяброўцы хутка пройдуць, так як праходзіць кожнае каханне. Важна толькі, каб тады ўжо ты змагла накіраваць свае пачуцці не ў бок новай дзяўчыны, а ў бок нейкага прыстойнага хлопца, які нарэшце абудзіць цябе з доўгага сну. А што абудзіць, у гэтым я ўпэўнена, бо ты ж, як пішаш, хлопца яшчэ не мела...

**Сэрцайка**

P.S. Пры нагодзе пастараюся крыху шырэй расказаць пра гэткія і іншыя адхіленні ў сексуальных справах.




Дарагі Астроне! Сніўся мне вось такі сон. Вельмі непакоіць ён мяне, бо я цяпер маю намер аформіць адну справу, але вагаюся, ці добра мне выйдзе, калі я гэта зраблю. Мо лепш хай асталося б, як было? Сама не ведаю, як паступіць. І вось сніцца мне гэты сон, ды што дзіўнае, ён мне паўтараецца яшчэ і на другую ноч. А было так. Быццам бы іду я па пушыстым, белым снезе. Ён крыху прытоптаны, бо вядома, як на тратуары, дзе людзі ходзяць. І што дзіўнае — іду я па гэтым снезе босая. І мне не холадна, толькі сорамна ад людзей, якія са здзіўленнем глядзяць на мяне. І ідуць са мной мае два сыны. **Вера**

Сніцца мне, што я з нейкай жанчынай знаходжуся ў яме. Яма гэта нядаўна выкапаная і вельмі глыбокая. Я хацела вылезці з яе, але ж не магла рукой дастаць да паверхні, каб зачапіцца. І прачнулася. **Галена**

Сніцца, што я ў кватэры суседзяў. Там ляжыць стары і вельмі хворы чалавек, сваяк суседа. Я ведаю, што ён памрэ. Сусед глядзіць на яго і пачынае плакаць. Я суцяшаю яго. Сусед цяпер хворы на грып. **Марыся**

Вера! Твой сон занепакоіў нават мяне. Наогул сніць зіму — не надта добра. Не надта добра, паколькі асацыіруецца яна з нейкім холадам і беспаспяховасцю. Твой снег, аднак жа, быў белы і пушысты, хаця крыху прытоптаны. Абазначала б гэта, што чакае цябе нейкі прыбытак, узбагачэнне. Аднак жа, ізноў: стоп! Ты ж ішла па гэтым снезе босая. Дык абазначала б гэта, што замест прыбытку будзеш мець адно нейкія клопаты і галечу. Можа гэта датычыцца таксама і тваіх сыноў.

Ты, Галена, спадзявайся нейкіх клопатаў. Тое, што апынулася ты ў глыбокай яме і не змагла з яе вылезці, прадвяшчае для цябе пэўную небяспеку.

Марыся! Твой сусед, які быў хворы на грып, бадай паправіцца. Будзе зусім інакш, чым табе здавалася ў сне. За гэта гаворыць тое, што сусед плакаў.

**Астрон**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Васьмікласнікі з Трасцянкі са сваёй настаўніцай беларускай мовы Галенай Тапалянскай.

## З СУСТРЭЧЫ Ў ТРАСЦЯНЦЫ

У вялікім холе-калідоры ў школе ў Трасцянцы ўсё свабоднае месца на сценах занята вучнёўскімі карцінамі. Тут іх цэлая галерэя. Гэта выстаўка школьнага гуртка мастакоў. Вядзе гурток дырэктар школы Марыя Смактуновіч.

Мастацкі школьны гурток ужо шмат гадоў удзельнічае ў агульнапольскіх конкурсах малявання. І сёлета ўжо атрымалі дзеці запрашэнне на ўдзел у конкурсе „Колеры дружбы". Ад пачатку ўдзельнічае гурток таксама і ў агульнапольскім конкурсе „Помнікі царкоўнага мастацтва", які арганізуе Таварыства апекі над помнікамі старыны ў Варшаве. Шмат гадоў школа займала ў гэтым конкурсе нават першыя месцы, а найлепшыя працы паказваліся на выстаўцы ў Варшаве.

І сёлета гурток з Трасцянкі працуе ў гэтым напрамку вельмі актыўна. У кастрычніку гурток ездзіў на пленэр — аглядалі цэрквы ў Тапалянах, Міхалове, Новай Волі, Гарадку. Рабілі замалёўкі гэтых цэркваў, а ў Гарадку знаёміліся не толькі з вонкавым выглядам сакральных будынкаў, але і ў сярэдзіне царквы. Пасля гэтага пленэра на выстаўку свае працы падрыхтавалі: Эва Гермашук, Іра Канюк, Гражына Франкоўская, Аня Андрэюк, Бася Пацкевіч, Дарэк Максімчук, Шымэк Каліноўскі, Караліна і Пеця Зінкевічы, Эля Максімчук, Андрэй Максімчук, Эдыта Карольчук, Войтэк і Томэк Садоўскія, Эва Тамашук і іншыя.

На сустрэчы з „Зоркай" члены мастацкага гуртка абяцалі прысылаць свае найлепшыя малюнкі і да „Зоркі".

На той сустрэчы, якая адбывалася ў студзені, дзеці дзяліліся сваімі ўражаннямі з падрыхтоўкі да школьнай ёлкі, якая ў хуткім часе пасля сустрэчы мела адбыцца. Усе класы былі заняты працай. Васьмікласнікі, як найвышэйшыя ў школе, упрыгожвалі залу зверху — гірляндамі і лямпёнамі, сямікласнікі — дэкаравалі вокны, шасцікласнікі — прыбіралі ёлку. А вучні малодшых класаў рыхтавалі школьны канцэрт: пяцікласнікі развучвалі інсцэнізацыю „Зайкава хатка" і рабілі да яе маскі ваўка, зайца, лісы і іншых звяроў, а таксама дэкарацыі хаткі ў лесе, чацвёрты клас старанна рыхтаваў сцэнку „Два зайчыкі", а наймалодшыя класы разам са сваімі выхавацелькамі паўтаралі навагоднія вершы, песні і танцы, з якімі выступілі на ёлцы.

Васьмікласнікі падзяліліся з „Зоркай" сваімі больш дарослымі праблемамі: ім у гэтым годзе трэба выбіраць сабе прафесію. Расказвалі аб сваіх зацікаўленнях, ахвоце вучыцца ў пэўных напрамках. Вось, напрыклад, Адам Катоўскі захапляецца тэхнікай. На малюнках з савецкага часопіса „Техника молодёжи" Адам разам з сябрамі пабудаваў веласіпед. Дзяўчаткі ж больш захапляюцца літаратурай, вязаннем, вышываннем. Марыся Стахвіюк прызналася, што вельмі любіць аглядаць куточкі моды ў розных часопісах. Яна чытае журнал „Советская женщина", у якім ёсць цікавыя ўзоры світароў, сукенак, спаднічак.

Некалькі васьмікласнікаў збіраецца паступаць і ў беларускі ліцэй у Гайнаўцы.

„Зорка" жадае ўсім васьмікласнікам паступлення ў задуманыя школы і ўсім дзецям вясёлых заняткаў і моцных пацёрак.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара

**НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ**




**Георгій Марчук**
**Вершы У. Някляева**

**(3)**

**(Пачатак у папярэдніх нумарах)**

**Аварыя.** А мне гэты хлопчык спадабаўся.

**Трагічная Сітуацыя.** Наш чалавек.

**Крумкач.** Які хлопчык? Містыфікацыя. Вось! *(Паказвае на Бярозку).* Дзе дзяўчынка? Няма. Гэты хлопчык з'явіўся, каб выратаваць яе.

**Аварыя.** Ай-я-яй... А з выгляду такі адукаваны і культурны.

**Трагічная Сітуацыя.** Яны сарвуць нашы планы.

**Няшчасны Выпадак.** Так! Яны папярэдзяць усіх дзяўчынак і хлопчыкаў аб задуманай намі аперацыі.

**Аварыя.** Дык чаго ж марудзіць? За імі!

*Усе знікаюць. Музыка.*

*Ясь і Яніна з'яўляюцца з другога боку.*

**Ясь.** Ф-у... Сюды, Яніна. Стой. Мне здаецца, што мы тут былі.

**Яніна.** Так. Дарога зноў нас прывяла на старое месца. Як жа нам адсюль выбрацца?

**Ясь.** Яніна, ёсць ратаванне! Я ўспомніў. Вось *(Дастае кнігу).* Падарунак Светафора. Як толькі мы вывучым правілы, мы знойдзем дарогу, як выйсці з гэтага каралеўства.

**Яніна.** Дык пачынай хутчэй. Чуеш, яны імчаць сюды.

*Ясь і Яніна разгортваюць кнігу і, карыстаючыся ёю, як компасам, выходзяць. З'яўляецца Аварыя, Крумкач, Трагічная Сітуацыя, Няшчасны Выпадак.*

**Аварыя.** Чалавечым духам пахне. Яны былі тут.

**Крумкач.** Ха! Нічога, лабірынт выведзе іх зноў сюды. Сядайце. Пачакаем.

**Аварыя.** Штосьці псуецца настрой. Хочацца чытаць маленькім дзецям казкі. Гэта дрэнная прыкмета.

**Няшчасны Выпадак.** І ў мяне ногі робяцца як драўляныя.

**Крумкач.** Слабее мой зрок. Гэта кепская прадчуванне.

**Аварыя.** Прынцэса, чаго нам усім зрабілася надобра?

**Трагічная Сітуацыя.** Пачакайце, зараз падумаю і скажу... Яны маюць кнігу бяспекі руху пешаходаў!

**Крумкач.** Толькі пані Пагоня змажа іх дагнаць.

**Няшчасны Выпадак.** Завіце Пагоню.

**Усе** *(да Аварыі).* Дрэнна нам. Душа нараджаецца, ныць пачынае. Ратуйце!

**Аварыя.** Хопіць! Крумкач, клікні старую.

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### НА ЎРОКУ ГЕАГРАФІІ

— Якія маем, адкажы нам
Ніна, —
Выкапні карысныя ў краіне?
Вырвалася тут з адказам Уля:
— Бульба, буракі, цыбуля...
— Гэта ж агароднiна, Ульяна! —
Запыніў настаўнік знерваваны.
— Выкапні, — азвалася
Алеся, —
Смольныя карчы, што ў нашым
лесе.

### У ЗУБНОГА ЛЕКАРА

Аднойчы ў лекара зубнога
Мама суцешвала сыночка:
— Не зробяць тут табе нічога,
Няхай жа не слязяцца вочкі.

Азваўся праз хвіліну Дзіма,
Ужо не верачы нікому:
— Чаго ж тады прыйшлі сюды
мы?
Віртаймася хутчэй дадому!

### ВЫНАХОДЛІВЫ МАСТАК

Чаму спяшаецца брат так,
Малюючы штось на паперы?
Не можа разгадаць ніяк
Прычыны той малы Валерык.

— Бачу, што мушу адказаць
Табе на гэта, мой ты скарбе:
Хачу паспець дамаляваць,
Пакуль не скончыцца ўся
фарба.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### АЖАНІЛІ МЯНЕ МАЛАЛЕТНЯГА

*Запісаў Г. Т. Цітовіч*

*Пяе мужчынская група:*

Ажані(ы)лі мяне
Эй! малале(э)тнята,
Ды малавумнага.
Тай далі(ы) мне жану
Эй! ды не па(а) любові...
Што ні беладіца,
Што ні чорны бровы.
Ды не ўме(э)е жана
Эй! ды ні жы(ы)та жаць.
Ды ні жыта жаць,
Ні снапа звязаць.
Як і звя(а)жа сноп,
Эй! сноп развя(а)жацца,
Як і скажа слаўцо,
Ды не нравіцца.

*Адказвае жаночая група:*

Ой, няго(о)дны ты муж,
Эй! ды ты сам такі:
Ні араць, ні касіць,
Ні грабель зрабіць.
Як і зро(о)біць граблі,
Эй! раскідаюцца,
Як наб'е касу,
Каса лапочацца.
Як наб'е касу,
Эй! залапочацца,
Мне з такім мужыком
Жыць не хочацца.




## НІЎКА



Аднойчы марнатраўны чалавек, які скардзіўся на недахоп грошай, запытаў філосафа, дзе можна пазычыць якуюнебудзь суму. „Пазыч у сябе, скарачаючы свае расходы", — параіў Сакрат.

### ФРАЗЫ

Гнаўся за славаю, а слава сумна глядзела яму ўслед.

*

Ніпіто так не перашкаджае развіццю інтэлекта, як яго адсутнасць.

*

„Быць царом звяроў? Ніякае там шчасце!", — падумала кошка, гледзячы на льва ў клетцы.

*

Галоўнае — умець выбраць галоўнае!

*

Як многа трэба знаць, каб пачаць сумнявацца.



Помні: павольнасцю не прадоўжыш тэрмін жыцця.

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

Хто ў свеце не бачыць сваіх сяброў, той нягодны, каб свет даведаўся аб ім.

*Іаган Гётэ (1749-1832), нямецкі паэт і мысліцель*

*

У мудрасці ёсць граніцы, дурасць бязмежная.

*Яніс Райніс (1865-1929), латышскі паэт-драматург*

### РЭЦЭПТ ДАЎГАЛЕЦЦЯ

Я рашыў прадоўжыць сваё жыццё. Можна прадоўжыць яго коштам таго, каб не піць, не курыць, не спаць па начах — толькі ці гэта жыццё! Я рашыў дабіцца даўгалецця коштам эканомнасці. У сярэднім я сплю 10 гадзін у суткі. Калі б спаць восем, дык за адзін месяц я выйгрываю 60 гадзін, а на працягу года — 720. Значыць, за бліжэйшых 20 год я выйграю толькі на гэтым амаль два гады.

Піва я штодзённа п'ю па паўгадзіны. А калі буду яго піць 20 мінут, дык на працягу месяца эканомлю я 5 гадзін. Ды мала на чым яшчэ можна эканоміць! Палічыў я ўсё гэта і атрымалася, што я магу дацягнуць мінімум да ста дваццаці год.

### ДРЭСІРОЎКА

Муж знаходзіўся ў прыемным настроі, таму што выйграў маленькую бітву ў жонкі: ён рашуча адмовіўся нарысаваць сыну малпу на пальме і замест таго згадзіўся наладзіць пыласос. „Трэба, каб яна зразумела нарэшце, што ніколі не быў і не буду мастаком", — думаў муж.

Пасля вячэры ён з задавальненнем дрэсіраваў сваю сабаку і раздумваў над тым, якая ў яго ўсё-такі разумная жывёла. Сабака станавіўся на заднія лапы, а гаспадар за старанне даваў яму кусочак цукру.

Сабака думаў: гаспадар нарэшце зразумеў, што калі я станаўлюся на заднія лапы, гэта значыць, мне неабходна даць цукру.

Жонка думала аб тым, што рысаваннем яна заўсёды цяпер можа прымушаць мужа і дабіцца ад яго ўсяго, чаго захоча.

Усе былі задаволены.

### ПАПРАЎКА

**У крыжаванцы змешчанай ў „Ніве" № 8 дапушчаны дзве памылкі. Правільныя значэнні павінны гучаць: Уніз: 2) застылая сумесь або вельмі многа чагось, 18) у садзе. Перапрашаем.**

### УСЕ ВАЖНЫЯ

Пальчаткі заганарыліся: „Лета скончылася. Цяпер усе нас на руках насіць будуць".

*

Сапсаванае жалезка хвасталася: „Сваёй работай я астаўлю незабыўны след".

*

Старыя туфлі лічылі, што іх годнасць растоптана.



*Вядома, вясна.*

Прадавец:

— На жаль, мадам, у нас сёння толькі вось такія яйкі.

Пакупніца:

— Чаму ж вы не адправіце іх назад на ферму, каб куры пасядзелі на іх яшчэ крыху?

*

— Больш нязграбнага чалавека, чым наш новы касір, я ніколі не сустракаў! Касавокі, крываносы, лапавухі і вогненна-рыжы!

— Вядома, прыгажосцю ён не вызначаецца, але затое якія ў яго арыгінальныя прыкметы.

*

— Скажыце, у гэтым возеры можна лавіць рыбу?

— Можна.

— Значыць, калі я што-небудзь злаўлю, гэта не будзе парушэннем закона?

— Не, гэта будзе дзіва.




Чым больш абшырны слоўнікавы запас, тым лягчэй выказвацца без лішніх слоў.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020